


ЗІМОВЫЯ ГУЛЬНІ. Фота К. Свідэрскі.

№ 3 (1119) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 21.I.1979 г.

# Старонка для маленькіх

Д. Слаўковіч

## Алёшка

Не любіць Алёшка стрыгчыся. Не любіць і не даецца. Бабуля кажа:

— Каб яго падстрыгчы, палову здароўя аддаць трэба.

Аднойчы мама не вытрымала. Узяла Алёшку за руку і сказала:

— Пойдзем да дзядзькі цырульніка. Ён сёння нам пазваніў па тэлефоне і сказаў, каб я цябе прывяла да яго, бо ён нейкі падарунак табе падрыхтаваў.

— А можа, няхай бабуля сходзіць да цырульніка і забярэ той падарунак.

— Не, — кажа мама, — падарунак трэба атрымаць табе самому...

Алёшка ўздыхнуў і згадзіўся.

І вось пайшлі Алёшка з мамай у цырульню.

Дзядзька цырульнік з вузенькімі вусікамі пад носам ветліва гаворыць Алёшку:

— На зэдлічку сядзем.

На крэсла ставіць зэдлічак. На яго — Алёшку.

Маці аб нечым дамаўляецца з майстрам. Той ківае галавою.

— Вось што, — кажа цырульнік. — Будзеш сядзець ціха — нешта дам.

— Што? — Алёшка любіць дакладнасць у дагаворах.

— Ну, скажам, бутэлечку з прыгожым коркам.

— Вы мне такую ў мінулы раз давалі.

Маці зноў нешта шэпча таму, з вусікамі. Да Алёшкі далятаюць словы: „Абы маўчаў, а там...“

— Магу машынку падараваць.

— А чым самі стрыгчы будзеце?

— Я табе вось гэтую, запасную,

---

Васіль Вітка

## Новага дома ўладар

*Колькі навокал шчэх!*
*Гляньце, як ззяе снег.*
*Хутчэй жа на двор, сябры,*
*Кожны лапату бяры —*
*Як бачыш збудуем дом,*
*Весела ў ім зажывём.*

*Буду і сам я ўвесь час*
*З вамі і паміж вас,*
*Добры ваш камандзір,*
*Вопытны брыгадзір,*
*Новага дома ўладар,*
*Законны яго гаспадар.*

*І вось закіпела наўкол*
*Праца, нібыта ў пчол.*
*Вулей сяброўскі гудзе,*
*Спорна будоўля ідзе.*
*Вырас у нас на вачах*
*Вунь паглядзі, які гмах!*

*Сцены — рукой не дастаць.*
*Даволі! Канчай будаваць,*
*Бо дапамогі няма ж...*

— тлумачыць цырульнік. І раптам пытаецца: — Кот дома ёсць?

— Ёсць. Пушысты. Васькам завецца.

— Яго і падстрыжэш. Толькі ўмова: сядзець ціха, ні гу-гу.

— Згодзен, — адказвае Алёшка. Хоць не надта разумее, што такое „ні гу-гу". Напэўна, каб не плакаў, не вырываўся.

Цырульнік заходзіць збоку, спераду. Алёшку відны то рукавы белага халата, то гузік і кішэня.

На суседнім крэсле стрыгуць дарослага. Таксама машынкай. Алёшка косіць туды вокам. Майстар заўважае:



— Чалавек у армію ідзе. Салдатам стане. Стрыжом гэтак так жа, як і цябе. Нахілі галаву.

Хочацца яшчэ раз зірнуць на таго, што салдатам будзе. Ледзь павярнуўся, ля вуха нешта як скубяне за валасы!

— Во-ой!

— Сам вінаваты. Не круціся.

Слёзы выступілі на вачах. Алёшка залямантаваць сабраўся. Але адумаўся: той жа, што ў салдаты пойдзе, не плача!

— Гатова, — сказаў цырульнік і абтрос чыстай сурвэткай.

Устаў і дарослы. Весела зірнуў у люстра, усміхнуўся. Падзякаваў, выйшаў.

Алёшка зайздросна правёў яго вачыма. Потым таксама на сябе ў люстэрка зірнуў. Галава круглая, нібы шар. Але на гэты раз ён не скрывіўся, не заплакаў.

— Ну, дык што — даць машынку? — пытаецца цырульнік.

— Машынку не трэба. Якому другому хлопчыку падаруйце, каторы яшчэ зусім-зусім малы і стрыгчыся баіцца. Я — як салдат: нічога не баюся!

*А дзе завадатар наш,*
*Новага дома ўладар,*
*Законны яго гаспадар?*

*Надта ж доўга стаім,*
*Самі прадроглі зусім,*
*Пачырванелі насы...*
*Калі ж ты адказ дасі,*
*Наш брыгадзір,*
*Будаўнік,*
*Вопытны чараўнік?*

*Раптам пачуўся адказ;*
*— Сябры мае, я паміж вас.*
*Калі падмануў і падвёў,*
*Дык толькі адных гультаёў.*

*Прашу, калі ласка, у дом,*
*Атуленьі снегам і льдом —*
*Жвавей,*
*Весялей*
*Гуртом,*
*Грэйцеся*
*Уласным*
*Цяплом!*

*Кожны памацай свой нос,*
*Не адмарозіў?*
*— Не.*
*— Што трэба сказаць тады мне?*
*— Дзякуй,*
*Дзядуля*
*Мароз!..*

А. Куприн

# МАНЮКА

Быў Арапаў заўзятым паляўнічым і, што яшчэ важней, добрым таварышам на паляванні...

Зіма пераломвалася. Аднекуль здалёк пачало пацягваць вясною. Мы з Арапавым выбралі адну веснавую раніцу, каб можа ў апошні раз да будучай восені, пайсці па зайцах. Манюку не трэба было запрашаць. Ён пайшоў з намі з заўсёдышняй сваёй стрыманай, сур'ёзнай радасцю.

І, вядома, увязалася за намі ўся няпрошаная бесталковая вясковая сабачня: і Чубарык з могілак, і Сярко, і Султан, і Кадошка з Барбоскам, і Султан з Патрашкам, — словам, усе, хто толькі ўмеў і мог перашкаджаць паляванню.

Але працаваў заўсёды адзін толькі Манюка з характэрнай яму нястомнай і патрабавальнай энергіяй. Незалежныя сабакі палявалі самі па сабе. Яны абнюхвалі норы вожыкаў, кратоў і мышэй, брахалі на птушыныя і зайчыныя сляды. Вельмі хутка мы іх пераганялі, і яны зусім губіліся з віду.

Аднак у гэты дзень мы не ўбачылі ані разу нават зайчынага хваста. Усе палі, лугі, лясныя сцежкі былі збеганы іператоптаны зайцамі, але акрэсліць, новыя гэта сляды ці старыя, не было ніякай магчымасці. Манюка капаўся носам у снезе і адчайна фыркаў. Кінуўшы след, ён зноў вяртаўся да яго, зноў нюхаў, не разумеючы, і потым, павярнуўшыся да нас, кіраваў на нас свае ярка-рыжыя вочы. Ён быццам гаварыў нам: „Ну, добра, ну, мы пайшлі па зайцаў, але дзе ж, вы мудрацы, вы вогненныя людзі, дзе ж нашы зайцы?“

Мы зайшлі далёка. Пачало цямнець. Мяккі снег прыліп да валёнкаў, і яны прамоклі. Мы вырашылі пайсці дадому. Бывайце, зайцы, да восені. Манюка расчаравана бег спераду.

На выгане, як і заўсёды, далучыліся да нас іншыя сабакі. Ім цяжка было ісці. Мяккі снег забіваўся цвёрдымі камякамі пад лапы, і трэба было гэтыя камякі штомінуту выкусваць.

Мы ўжо амаль падыходзілі да сяла, калі раптам бязгучна пачаў падаць з цёмнага неба буйны снег. За некалькі мінут ён пакрыў усе сляды: і заечыя, і чалавечыя, і санныя, і таксама хутка перастаў.

Дома я пераапрануўся. Мне заставалася яшчэ паўгадзіны да вячэры. Я праглядваў старую кнігу.

У акно да мяне пастукалі. Я прыціснуўся да шыбы і ўбачыў Арапава. Ён трывожна выклікаў мяне.

Арапаў быў вельмі занепакоены:

— Калі ласка... Я не ведаю, што рабіць з Манюкам. Калі б не зіма, я падумаў бы, што ён ашалеў. Паглядзіце.

Убачыўшы мяне, Манюка кінуўся да мяне. Ён скакаў да мяне на спіну, ірваў полы майго кажушка і цягаў мяне, упіраючыся пярэднімі нагамі ў снег і матляючы галавой.

— Мне здаецца, што ён чуе ваўка, — здагадаўся я. — Пачакайце, я перазараджу стрэльбу і пойдзем, куды ён павядзе.

Убачыўшы стрэльбу, Манюка радасна заскакаў. Ён пабег наперад, але пры выхадзе з двара спыніўся і чакаў нас, нецярпліва махаючы хвастом. Мы ішлі за ім. Відаць, ён добра памятаў свой шлях: гэта была тая самая дарога, па якой мы вярталіся з палявання, — цяпер гладкая і чыстая ад свежага снегу.

— Пачакайце, — сказаў Арапаў. — Патрымайце трошкі Манюку. Я пагляджу сляды.

І праз некалькі хвілін ён крыкнуў мне:



— Ясна, як палец! Туды і сюды вядуць Манюкіны сляды. Трэба думаць, што пасля прыходу дадому ён збегаў кудысьці і вярнуўся назад.

Вядома, воўк не хваляваў Манюку, інакш ён скуголіў бы. Мы працягвалі ісці за ім, і ён цяпер вёў нас спакойна і ўпэўнена, выдатна разумеючы, што мы яго слухаемся.

Так мы прайшлі вёрст пяцьшэсць і, нарэшце, здалёк пачулі тонкі, жаласны візг. Ён рабіўся з кожным крокам усё выразнейшы, пакуль мы не пераканаліся, што гэта візжыць невялічкі сабачка. Хутка пры імглістым святле расплыўчатага месяца мы ўбачылі невялічкі снежны бугор. Манюка пачаў адчайна кідацца ад гэтага бугра да нас і назад, весела брахаў. Калі мы падышлі зусім блізка, дык без клопату знайшлі беднага злашчаснага Патрашку. Аказваецца, ён трапіў у пастку, пастаўленую на зайцаў у пералеску барадзінскімі мужыкамі.

Пастка на зайцаў, вядома, не магла пераламаць сабачую нагу, і каб снег не быў мяккі, Патрашка дацягнуўся б неяк дадому. Але ліпкі, мокры, мяккі снег з кожным новым валакучым крокам Патрашкі ўсё больш і больш набухаў на пастцы, пакуль не ператварыўся ў велізарны куль, які невялічкі сабачка ўжо не мог скрануць з месца.

Мы вызвалілі Патрашку, і ён, пакульгваючы і павізгваючы, пакуляў за намі ў сяло.

Манюка ўсю дарогу не мог супакоіцца і адчайна і весела брахаў. Ён кідаўся пярэднімі лапамі на грудзі то да мяне, то да Арапава і імкнуўся лізнуць у губы і адразу ж бег назад да Патрашкі, каб аблізаць яго з хваста і з галавы. Мілая, бескарыслівая сабачая радасць.

За вячэрай мы доўга гаварылі аб здарэнні. Дзіўна: мы — людзі, мы — цары Сусвету, мы што ўмеем лічыць да тысячы, не заўважылі па дарозе адсутнасці Патрашкі, а Манюка — усяго толькі сабака — зразумеў недахоп, ужо прыйшоўшы дадому.

## ШТО ТАКОЕ „КАРАТЭ“?

Было гэта ў семнаццатым стагоддзі.

Багаты і моцны род самураяў Шымазу вырашыў стаць яшчэ багацейшым і яшчэ мацнейшым. Самураі напалі на астравы Рукю ў Ціхім акіяне і захапілі іх. А каб было лягчэй трымаць у паслушэнстве жыхароў, самураі забаранілі ім насіць зброю. Заваёўнікі былі жорсткія. Яны маглі для забавы забіць безабароннага чалавека. Але людзі на астравах жылі гордыя. „Няхай сабе ў нас забралі мечы, лукі, коп'і, — вырашылі яны. — Мы навучымся бараніцца голымі рукамі“. Кожную вольную хвіліну жыхары Рукю прысвячалі на трэніроўку. Старадаўнімі практыкаваннямі, якія шмат тысяч гадоў былі вядомы на Усходзе, людзі ператварылі рабро сваёй далоні ў меч, кулак — у молат, а канцы пальцаў — у вострыё кап'я. Не забыліся і пра ногі — наша ж нага значна мацнейшая за руку. Трэніравацца даводзілася ў таямніцы. Самураі не павінны былі ведаць сакрэтаў бою без зброі. З пакалення ў пакаленне расло майстэрства.

Прайшлі стагоддзі. Даследчык і спартсмен з вострава Акінава Гічын Фунакошы ўдасканаліў старажытную тэхніку рукапашнага бою і скінуў з яе пакрывала сакрэтнасці.

Каратэ (у перакладзе на нашу мову азначае „пустая рука“) увайшло ў апошні час у праграму фізічнага выхавання японскіх школьнікаў і студэнтаў.

Дык што ж такое „каратэ“?

Адзін з выдатных японскіх карацістаў Матсутатсу Аяма гаворыць, што каратэ — гэта навука і філасофія рукапашнага бою. Сканцэнтраваць усю сваю сілу ў адным пункце — у кулаку — вельмі няпростая справа. Каб дасягнуць гэтага, спартсмен і трэнер павінны глыбока вывучыць, зразумець чалавечую псіхалогію.

Уся сіла — у адным пункце. Вось галоўны сакрэт каратэ.

Цяпер каратэ вядома ў многіх краінах. У 1975 годзе польская каманда карацістаў на чале з Андрэем Дрэўняком удзельнічала ў першым адкрытым чэмпіянаце свету ўсіх стыляў і катэгорый каратэ ў Токіо. Нашай камандзе арганізатары чэмпіянату ўручылі спецыяльную ўзнагароду — за высокія баявыя якасці.

Нельга не ўспомніць яшчэ аб адным. Каратэ — гэта спорт. Гічын Фунакошы яшчэ ў дваццатыя гады пісаў: „Вучань у каратэ павінен вызваліць свой розум ад усялякага эгаізму, ад усялякай злосці. Ён ніколі не шукае аказіі выкарыстаць у стане гневу сваё ўменне на другім чалавеку“. Гэта святая запаведзь сапраўдных спартсменаў.

# Пазнаёмімся

СССР, 692100, г. Дальнереченск Приморского края, ул. 50 лет Октября, д. 53 кв. 1. Лена Любченко.

* ✲ *

СССР, 346500, г. Шахты, Ростовской области, ул. Ленина 194, кв. 21. Черненко Владимиру. Хлопчык скончыў пяты клас.

* ✲ *

СССР, 692100, г. Дальнереченск Приморского края, ул. Вокзальная, 73. Кревсун С.

* ✲ *

СССР, 344080, г. Ростов н/Д-80, ул. Российская, 44, кв. 15. Жмойловой Вере. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

СССР, 346520, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Советская 242, кв. 23, Безродновой Наталье. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, пл. Леніна, 13, Шуляк Лена, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800 г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Касманаўтаў, 62-А, кв. 3. Аня Слуцкая, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Першамайская, 12, кв. 15. Ігар Хадзько, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Гнедаша, 17. Уладзімір Герасімчык, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Агінскага 29, Аляксандр Краснаруцкі, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, д. 13, кв. 42. Сяргей Кісялёў, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Студэнцкая, 4, кв. 50. Анатоль Пацэнка, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Рыбацкая, 1, кв. 12. Уладзімір Ракевіч, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, пер. Пераскок, 4, кв. 1. Света Шурко, 12 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 36. Вера Міскевіч, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Адоеўскага, 41, кв. 42. Наташа Полушкіна, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 117, Ілюша Ладкін, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 105. Лена Рыщчанкова, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Студэнцкая, 6, кв. 2. Іра Сафронава, 12 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Студэнцкая, 6, кв. 49. Света Хамусяк, 13 гадоў.

# АДГАДАНКА



Надумаліся дзеці, што жывуць у гэтым доме, пайсці пакатацца на санках і на лыжах. Пачалі званіць да сяброў. А ты паспрабуй адгадаць, хто з кім дагаворваецца.

(„Піянер Беларусі“)

Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.